# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 26 (561) | Нядзеля, 2 ліпеня 1961 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Перад вырашальным выпрабаваньнем

Паявіўшыся ў генэральскай форме, абчэплены ваеннымі ардэнамі Хрушчоў на сьвяткаваньні 20-ай гадавіны нападу гітлераўскай Нямеччыны на Савецкі Саюз 21-га чэрвеня ў сваей прамове даслоўна сказаў: «Адначасна астаецца сказаць, што кіруючыя колы заходніх дзяржаваў так-жа й цяпер выступаюць супраць падпісаньня мірнага дагавору зь Нямеччынай і робяць нямецкае пытаньне аб'ектам пробы сілаў. Сяньня я хацеў-бы перасьцерагчы тых, якія заахвочваюць канцлера Адэнаўэра быць няўступлівым на савецкія мірныя прапановы. Мы паўторна прыклікалі да розуму кіруючыя колы Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі. Няўжо хочаце, вы, спадары, забыцца няслаўных дасьветчаньняў вашых папярэднікаў і паўтарыць іх узноў? Зразумела, яны могуць гэтага прабаваць, але гэта быў-бы пачатак іхнага канца. Цяпер іншыя часы чымся дваццаць год таму назад. Цяпер былі-б змушаныя ня толькі нямецкія рэванжысты, але й усе, якія прабавалі-б падтрымліваць супраць нас новую авантуру, падзяліць лёс Гітлера».

Падчас сустрэчы ў Вене з Хрушчовам прэзыдэнт Кэнэды ясна й цьвёрда паінфармаваў свайго ўсходняга партнэра, што Амэрыка ў ніякім выпадку не намераная йсьці на далейшыя ўступкі Савецкаму Саюзу, якія-б вялі да ўмацаваньня камуністычных пазыцыяў у сьвеце за кошт стратаў заходніх пазыцыяў. У сваей радыёвай справаздачы зь венскага спатканьня прэзыдэнт Кэнэды паведаміў амэрыканскі народ і цэлы сьвет аб горкай, але няўхільнай праўдзе: «Саветы і мы прыдаём зусім іншае значаньне тым самым паняцьцям — вайна, мір, дэмакрацыя, нутраныя справы і агрэсія. Маем зусім розныя пагляды на зло і дабро, а перадусім зусім розныя канцэпцыі таго, чым ёсьць сьвет і куды ён ідзе. Мы верым у сыстэму нацыянальнай свабоды й незалежнасьці. Ён (Хрушчоў) верыць у экспансію й дынаміку сьветавага камунізму, і гэта якраз ёсьць пытаньнем, ці абедзьве сыстэмы могуць мець надзею жыць у міры бязь ніякай страты бясьпечнасьці ані без апушчэньня нашых прыяцеляў». У далейшых вывадах на гэтыя два кардынальныя пытаньні Кэнэды адказаў станоўча — не! Гэтым самым асудзіў ён канцэпцыю каагзыстэнцыі, якая прынесла ўжо столькі няшчасьцяў вольнаму сьвету.

Пасьля такога яснага выясьненьня пазыцыі вольнага сьвету, якую зрабіў прэзыдэнт Кэнэды, аставалася чакаць далейшага завайстрэньня напружаньня між Усходам і Захадам, што мы й прадбачвалі ў нашых папярэдніх артыкулах. Але гэтага завайстрэньня можна было чакаць у кажнай іншай справе і ў кажным іншым пункце зямное кулі, толькі ня ў Бэрліне. Гэта таму, што спасярод усіх іншых запальных пунктаў халоднае вайны Бэрлін зьяўляецца найбольш чулым месцам, і кажная ўступка Захаду ў гэтым найбольш уражлівым пытаньні была-б паказальнікам слабасьці й ненаважанасьці вольнага сьвету ў кажным спрэчным пытаньні, якія між Захадам і Ўсходам існуюць ці могуць заіснаваць у будучыні.

Бэрлін — гэта ня Куба і не Ляос. Захад добра разумее, што калі ён адступіць на бэрлінскай пазыцыі, дык страціць магчымасьць бараніць і пазыцыі іншыя. Бясспрэчна, гэта добра разумее й Хрушчоў. І таму аставалася чакаць, што, пры ўзмацненьні наступу на іншых франтох, халоднае вайны, на фроньце бэрлінскім Саветы адмовяцца, прынамся на некаторы час, правакаваць Амэрыку, як гэта яны ўжо й неаднаразова рабілі, калі бачылі, што тут, — у Бэрліне Амэрыка ня ўступіць.

Выйшла, аднак, наадварот. Якраз на фроньце бэрлінскім сканцэнтравалася сяньня ўся сіла савецкага наступу.

Савецкі мэмарыял у бэрлінскім пытаньні, перададзены Хрушчовам прэзыдэнту Кэнэды ў Вене, як і ўсе пазьнейшыя савецкія заявы ўлучна з апошняй прамовай Хрушчова 21-га чэрвеня, зводзіць усю справу да міжнароднага ўмацаваньня падзелу Нямеччыны, прапануючы тры магчымасьці выбару для Заходу: 1. падпісаньне мірнага дагавору з цэлай Нямеччынай, адмаўляючыся катэгарычна ад згоды на свабодныя выбары ў Усходняй Нямеччыне; 2. падпісаньне асобных мірных дагавораў з Заходняй Нямеччынай і Ўсходняй Нямеччынай; 3. у выпадку адмовы Заходу падпісаньне Саветамі сэпаратнага мірнага дагавору з Усходняй Нямеччынай, пры чым заходні Бэрлін меў-бы стацца знэўтралізаваным вольным горадам. У сваей прамове 21-га чэрвеня Хрушчоў дадаў, што падпісаньне Саветамі сэпаратнага дагавору з Усходняй Нямеччынай у ніякім выпадку не нарушыла-б інтарэсаў заходніх дзяржаваў у заходнім Бэрліне, а толькі юрыдычна пацьвердзіла-б фактычнае палажэньне.

Сама форма стаўляньня бэрлінскага пытаньня Хрушчовам выключае ўжо ўсякі адварот назад бяз страты прэсьціжу Савецкім Саюзам. Значыцца, Хрушчоў зарызыкаваў паставіць Амэрыку, а тым самым і цэлы Захад перад небясьпечнай пробай — хто каго, здаючы сабе справу з таго, што ігра ідзе пра вялікую стаўку. Дык што магло асьмеліць Хрушчова пайсьці на такую рызыкоўную ігру?

Адказ на гэтае пытаньне для нас адзін: навучаны дасюлешняй практыкай, Хрушчоў спадзяецца, што Захад, пастаўлены перад дылемай — новая сьветавая вайна або капітуляцыя, выбярэ апошнюю дылему.

Да гэтага свайго рызыкоўнага кроку Хрушчоў быў асьмелены дасюлешнімі камуністычнымі посьпехамі ўжо пры новым амэрыканскім прэзыдэньце. Ня трэба забывацца, што на працягу першага паўгодзьдзя ўрадаваньня новага амэрыканскага прэзыдэнта адбыліся дзьве падзеі у якіх за слоўнымі дэкляярацыямі Кэнэды не пайшлі канкрэтныя чыны. Гэта было ў справе Кубы й Ляосу. Але ў дадзеным выпадку Хрушчоў, на нашую думку, загаляпаваўся й ня ўзяў на ўвагу таго, што Куба й Ляос — гэта ня Бэрлін.

На Кубе, пасьля няўдала заімправізаванага пры помачы Амэрыкі антыкастраўскага паўстаньня, асталося палажэньне такое, якое было і перад паўстаньнем. Ня гледзячы на ўвесь палітычны цяжар кубанскае няўдачы, пытаньне Кубы асталося яшчэ адкрытым, аб чым заявіў і сам Кэнэды беспасярэдна пасьля ліквідацыі паўстаньня. Што-ж датычыцца Ляосу, дык узноў-жа, ня гледзячы на ўсю важнасьць ляоскага фронту ў змаганьні паміж Захадам і Ўсходам, Ляос усё-ж зьяўляецца пытаньнем пэрыфэрыйным. Затое Бэрлін прадстаўляе сабой цэнтральны фронт халоднае вайны й ягоная страта пацягнула-б за сабой капітуляцыю Захаду й на іншых фронтах.

Гэтую важнасьць бэрлінскага фронту разумее ня толькі Амэрыка, але й ейныя эўрапэйскія саюзьнікі, якія ў многіх іншых пытаньнях міжнароднае палітыкі не заўсёды падтрымліваюць Амэрыку. Прэзыдэнт Францыі Дэ Голь у гутарцы з прэзыдэнтам Кэнэды напярэдадні ягонай сустрэчы з Хрушчовам асьветчыў, што становішча Францыі ў бэрлінскім пытаньні нязьменнае й што Францыя поўнасьцяй падтрымлівае становішча Амэрыкі. Брытанскі міністар замежных справаў Лёрд Гом 11-га чэрвеня заявіў што брытанскае становішча ў справе Бэрліна ведамае й таксама нязьменнае. Пазыцыю Амэрыкі ў бэрлінскім пытаньні поўнасьцяй падзяляюць і многія іншыя дзяржавы вольнага сьвету. Такім чынам у пытаньні Нямеччыны перад новай загрозай Савецкага Саюзу вольны сьвет зьяўляецца наважаны й задзіночаны.

Справа Бэрліна ў сувязі з апошнімі савецкімі пагрозамі знаходзіцца сяньня ў цэнтры ўвагі сьветавай палітыкі. Яна зьяўляецца прадметам ажыўленае палітычнае актыўнасьці і ў самой Амэрыцы. Гэтак прэзыдэнт Кэнэды склікаў 23-га чэрвеня ў Вашынгтоне сваіх дыплямацічных супрацоўнікаў і дараднікаў у пытаньнях абароны, а так-жа вядучых дэмакратычных сяброў Кангрэсу на спэцыяльную нараду ў справе Бэрліна. Хаця вынікі нарады ня былі пададзеныя да ведама, тым ня меней усе сымптомы паказваюць на тое, што сярод адказных амэрыканскіх палітыкаў няма разыходжаньняў у тым, што ў бэрлінскім пытаньні Амэрыка скапітуляваць ня можа.

Незалежна ад успомненай нарады, сэнатар Брыдж зажадаў у сэнаце аднаўленьня амэрыканскіх гарантыяў для Бэрліна. Міністар фінансаў Дылён зьвярнуў увагу сэнацкай камісіі на магчымасьць, што на працягу шасьці месяцаў Амэрыка з прычыны Бэрліна можа апынуцца ў стане вайны з Савецкім Саюзам. Міністар замежных справаў Дын Раск заявіў перад прэсай, што Амэрыка ні зашто ня згодзіцца на страту сваіх правоў у заходнім Бэрліне ў выніку аднабокай акцыі Савецкага Саюзу. [illegible] цікавейшым зьяўляецца тое, што з вуснаў такога адказнага палітыка, як міністар фінансаў ЗША, вышла ў першы раз грознае слова — вайна!

Такім чынам наступнае паўгодзьдзе міжнароднае палітыкі будзе канцэнтравацца вакол пытаньня Бэрліна й можа быць плоднае рознымі неспадзеўкамі. Цяжка дапускаць, што і ў гэтым пытаньні Захад уступіць і дасьць змогу Хрушчову запісаць на коньце камунізму яшчэ адзін трыумф. У справе Бэрліна Захад ня можа пайсьці на ніякія ўступкі ня толькі таму, што гэта зрабіла-б пустым гукам усе дасюлешнія палітычныя дэклярацыі новага амэрыканскага прэзыдэнта, але яшчэ й таму, што такая капітуляцыя перад камунізмам у сілу далейшага разгортваньня падзеяў мусіла-б стацца пачаткам канца існаваньня вольнага сьвету.

**Язэп Каранеўскі**

# Дэмакратыя

У папярэднім нумары нашай газэты, з нагоды 20 угодкаў пачатку савецка-гітлераўскай вайны, мы закранулі мімаходам і пытаньне ролі нашае арганізаванае палітычнае эміграцыі. Мы сьцьвердзілі, што бяручы на ўвагу нашы сілы й магчымасьці, сваю місію нашая палітычная эміграцыя выконвае.

Можна было-б на гэтым і самазадаволена скончыць. Але ці ня варта і трэба пайсьці далей? Ці ня варта спыніцца над тым, якія мэты мы ставім перад сабой? Можна да бясконца карыстацца агульнымі тэрмінамі: вызваленьне, свабода, незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Агульнымі лёзунгамі вельмі ўмела карыстаюцца і нашы панявольнікі. Але ці трэба зноў паўтараць, што ня форма, а зьмест зьяўляецца запраўдным паказьнікам вартасьці?

Усе мы згодныя з тым, што наш народ церпіць пад расейска-бальшавіцкім рэжымам нацыянальную і сацыяльную няволю; што наша заданьне — дапамагчы нашаму народу гэтую няволю зьліквідаваць; што мы бярэм актыўны ўдзел у змаганьні за свабоду і незалежнасьць у Беларусі — свабоду й незалежнасьць, якія належацца нашай Бацькаўшчыне паводля людзкога і Боскага права. Ідучы далей, мы сьцьвердзім, што мы змагаемся за **дэмакратычную** дзяржаўнасьць нашага народу. — За тое, каб народ наш быў сам гаспадаром на сваёй зямлі і паводля свайго жаданьня мог кіраваць сваім лёсам.

Бальшавікі вельмі рана зразумелі важнасьць гэтых інстынктыўных імкненьняў да свабоды кажнага чалавека і народу. І цяпер, трымаючы падуладныя ім народы ў зялезным кулаку, яны не перастаюць сьпяваць ім аб найбольшай нацыянальнай і сацыяльнай свабодзе, якую яны быццам-бы прынесьлі, аб найбольшай дэмакратычнасьці іхнага ладу.

Як ёсьць у запраўднасьці — мы ведаем, і таму бадай найбольшая частка нашай дзейнасьці накіраваная на паказ вольнаму сьвету запраўднага стану рэчаў на нашай Бацькаўшчыне.

Але пара глянуць глыбей у наша нутраное жыцьцё, якім, бясспрэчна, абумоўліваецца і наша дзейнасьць — эфэктоўнасьць нашай дзейнасьці.

Як мы казалі, наша канчальная мэта — дапамагчы свайму народу, амбасадарамі якога мы зьяўляемся тут на эміграцыі, пасьля здабыцьця свабоды і незалежнасьці пабудаваць дэмакратычную дзяржаву. У гэтым выпадку ніхто нам не запярэчыць апрача, зразумела, бальшавіцкіх акупантаў.

Зусім лягічна, што змагаючыся за дэмакратыю, мы ў першую чаргу мусім быць дэмакратамі самі — і не на словах, а ў нашай практычнай арганізацыйнай дзейнасьці. Важна, каб мы самі разумелі правільна прынцыпы дэмакратыі, імі кіраваліся — і ім падпарадкаваліся. Дэмакратыя — гэта не анархія. Гэта — парадак, устаноўлены бальшынёй. Кажны з нас, жывучы цяпер у дэмакратычных краінах, мае даволі наглядных прыкладаў.

У эміграцыйных умовах, бязумоўна, дэмакратычная дысцыпліна — гэта куды цяжэйшая рэч, чымся ў дзяржаве з шматгадовай дэмакратычнай традыцыяй. Але кажны з нас, хто заве сябе беларускім палітычным эмігрантам, хто актыўна і эфэктоўна хоча змагацца за нашы нацыянальныя ідэалы — ведае, што якраз дзеля эфэктоўнасьці гэтага змаганьня патрэбныя пэўныя арганізацыйныя формы. А гэта азначае: падзел функцыяў, герархія, дысцыпліна.

У эміграцыйных умовах адзінай зарукай упарадкаванага арганізацыйнага жыцьця зьяўляецца асабістае й нацыянальнае сумленьне. Іншых сяродкаў «прымусу» [illegible]ма. Але якраз гэтым ацэньваецц[illegible] палітычная сьпеласьць і абумоўліваецца эфэктоўнасьць палітычнай эміграцыі.

Як доўга йснуе і будзе йснаваць сьвет, так доўга йснуюць і будуць існаваць разыходжаньні паглядаў. Гэта натуральна і добра. Але шкодна, калі паміж людзьмі, якія імкнуцца да аднае і тае-ж мэты, тактычныя ці іншыя разыходжаньні выходзяць за арганізацыйныя рамкі і выліваюцца ў вадкрытую варажнечу і змаганьне, у якім не перабіраюць сяродкамі. На гэтым жыруе вораг.

Ці можна апраўдаць такога чалавека, які, займаючы высокапастаўленае месца ў герархіі арганізавай эміграцыі — у выніку розных паглядаў на існуючыя праблемы, ня хочучы падпарадкавацца волі бальшыні, пакідае наагул усякую арганізацыйную дзейнасьць, ці навет праводзіць варожую акцыю? Сябра парляманту, прыкладам, не пакідае парляманту таму, што ягоныя пагляды супярэчаць бальшыні. Ён застаецца ў парляманце і, будучы перакананы ў сваёй слушнасьці, бароніць свае пазыцыі на гэтым форуме.

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Бунт супраць савецкай рэчаіснасьці

Нядаўна газэта «Калгасная праўда» зьмясьціла кароткую вестку пра тое, што з «таго часу, як вёска Крывічы сталася гарадзкім пасёлкам, сюды з суседніх калгасаў пацягнуліся тыя, хто шукае лёгкага безклапотнага жыцьця».

У сваю чаргу, «Чырвоная зьмена» нападае на тых беларускіх дзяўчат і хлапцоў, якія, закончыўшы вышэйшыя школы, не захацелі выехаць паводля «камсамольскіх пуцёвак» на прызначаную ім працу, але ўладкаваліся на працу самі, а некаторыя і зусім не працуюць.

Такіх вестак з нараканьнямі, выкрываньнем непакорных, а часта і пагрозамі ў савецкай беларускай прэсе можна знайсьці шмат. Выглядае, што нягледзячы на абвешчаны хуткі пераход да гэтак званага камунізму, у Беларусі колькасьць гэтак званых «сучасных мяшчан», шукальнікаў лёгкага хлеба, нажывы, спэкулянтаў ня толькі вялікая, але ўсьцяж павялічаецца. У іншым выпадку прэса ня прысьвячала-б ім столькі ўвагі.

Неазнаёмлены з савецкай рэчаіснасьцяй чалавек мог-бы сказаць: Ды й на самай справе! Ня можна-ж цярпець праяваў гультайства, ухіленьня ад грамадзка-карыснай працы, антыграмадзкіх учынкаў, якія шкодзяць усяму народу, ягонаму руху да пабудовы лепшай будучыні.

Аднак беларускія сяляне, работнікі і працоўная інтэлігенцыя, чытаючы такія весткі, ведаюць у чым тут справа. Ім добра знаёмая савецкая рэчаіснасьць, непадхварбаваная ружовай прапагандай. Не з дабра і не з жаданьня лёгкага хлеба ўцякаюць сяляне з калгасаў, а з бяды. Саракатрохгадовае будаўніцтва сацыялізму давяло сельскую гаспадарку Беларусі да поўнай руіны, а сялян да галечы. Жыцьцёвы ўзровень у вёсках такі нізкі, а заробкі такія малыя, што навет найгорш платная праца работніка здаецца вялікім дасягненьнем. Таму сяляне карыстаюцца кажнай нагодай для таго, каб ўцячы ад калгаснай паншчыны і тэй партыйнай бюракратыі, якая засела ў калгасах і пануе над імі ня горш за белых памешчыкаў. Іхныя ўцёкі з калгасу нельга назваць інакш, як бунт супраць калгасных парадкаў, бунт супраць савецкага ладу.

Такім самым бунтам супраць савецкіх парадкаў, супраць нацыянальнага і сацыяльнага паняволеньня можна назваць нэгатыўнае стаўленьне моладзі да высілкаў партыі поўнасьцяй авалодаць душой і целам моладзі. Уся савецкая адукацыйная і выхаваўчая сыстэма пабудаваная на імкненьні забіць у моладзі свабодную думку і накінуць ёй камуністычную ідэялёгію ды бясспрэчную паслухмянасьць партыі. Забываюцца толькі партыйныя выхавальнікі пра адну вечную праўду: людзі родзяцца свабоднымі. І таму энтузіязм моладзі да партыйных мерапрыемстваў, аб якім столькі гаворыцца ў савецкай прэсе — гэта толькі тэатральная дэкарацыя. Як паказваюць факты, сярод моладзі пануе крытычнае стаўленьне да рэжыму. Моладзь бачыць тыя супярэчнасьці, якія існуюць паміж партыйнымі лёзунгамі і савецкай рэчаіснасьцяй.

Моладзь хоча жыць свабодным жыцьцём, бяз вечных інструкцыяў ды загадаў, выбіраць такую працу, якая ёй падабаецца. Ей абрыдлі «пуцёўкі», якія змушаюць пакідаць родны край [illegible]ы ехаць на цаліну.

«Чырвоная зьмена» піша пра новых дробных мяшчан сярод моладзі. Але ня там іх трэба шукаць. Найбольш іх якраз сярод партыйнай бюракратыі. Мала таго! Уся сучасная савецкая сыстэма — гэта ланцуг дробнамяшчанскага ашуканства. Маючы здаровы інстынкт, моладзь уцякае ад савецкага дробнамяшчанства, шукае новых ідэяў і жыцьцёвых шляхоў.

Гэтага працэсу партыя ня зможа затрымаць ніякай сілай. Бунт супраць нялюдзкай савецкай рэчаіснасьці сярод моладзі, сярод сялянства і работнікаў будзе ўзмацняцца і далей. Бо нельга спыніць ці павярнуць назад натуральнае разьвіцьцё чалавека.

**М. С.**

# Мэты і вынікі

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны», у артыкуле «Тэорыі і практыка», мы падкрэсьлілі факт, што, ня гледзячы на тое, што найвышэйшыя органы дзяржаўнай улады вядучых краінаў Заходу, у прыватнасьці Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, ня раз урачыста абвяшчалі сваю поўную й рашучую падтрымку ідэі «свабоды й незалежнасьці ўсіх народаў сьвету», практычная дзейнасьць бальшыні заходніх інфармацыйных, прапагандовых і навуковых, а часта й палітычных органаў ніяк ня можа пераключыцца на гэтыя, афіцыйна праклямаваныя, прагрэсыўныя пазыцыі. Зусім зразумела, што такое кансэрватыўнае стаўленьне да вядучых ідэяў нашага часу з боку гэтых органаў ня можа ня выклікаць нэгатыўных эфэктаў сярод народаў, да якіх у першую чаргу сьціраваныя праклямацыі свабоды й незалежнасьці: народаў, паняволеных камуністычнай дыктатурай, і тых, што ўступаюць на шлях свабоднага, незалежнага дзяржаўнага разьвіцьця ды загрожаных моцнай камуністычнай прапагандай і інфільтрацыяй — народаў Афрыкі, Азіі і Паўдзённай Амэрыкі.

Для ілюстрацыі такога палажэньня возьмем спачатку адзін агульны прыклад, характэрны для ўсёй заходняй прэсы, радыя, а таксама выступленьняў адказных прадстаўнікоў заходняй грамадзкасьці.

Аб тэрыторыі ўнутры цяперашніх савецкіх граніцаў у падаўляючай бальшыні выпадкаў на Захадзе гавораць і пішуць, як аб «Расеі», а аб жыхарох гэтай тэрыторыі, як аб «Расейцах». Робіцца гэта бяз ніякіх паясьненьняў, накшталт таго, што цяперашні СССР — гэта прадаўжальнік Расейскай царскай імпэрыі, які, як і ягоная папярэдніца, панявольвае дзесяткі культурных і незалежных раней нацыяў розных расаў, рэлігіяў і гэтак далей. Здавалася-б, што за гэты аргумант Захад ня мае больш моцнага і пераканаўчага, каб маладым у дзяржаўным дачыненьні народам раскрыць вочы на двудушнасьць бальшавіцкай антыкаляніяльнай і антыімпэрыялістычнай прапаганды. Аднак гэты аргумант выкарыстоўваецца Захадам вельмі слаба.

З другога боку, як вымагаць ад падсавецкіх народаў, каб яны верылі, што Захад разумее іхныя нацыянальныя праблемы, спачувае ім і жадае ім свабоды і незалежнасьці, калі гэты-ж Захад ня робіць навет высілкаў, каб народы ў межах СССР называць іхнымі ўласнымі нацыянальнымі імёнамі?.. Бальшавікі-ж гэта спрытна выкарыстоўваюць. Яны ніколі не гавораць аб СССР, як аб Расеі. Але затое, калі ў заходняй газэце зьявіцца артыкул, напрыклад, аб посьпехах саветаў у галіне ракетнай тэхнікі пад загалоўкам «Вялікае дасягненьне расейскіх вучоных», дык яны яго так і перадрукуюць. Яны гэта выкарыстоўваюць як аргумант, каб, з аднаго боку, зрабіць лішні рэвэранс у бок «расейскага генія», а з другога — ускосна намякнуць нерасейскім падсавецкім народам, што, маўляў, вы з вашымі нацыянальнымі дамаганьнямі сядзеце і ня рухайцеся, бо тады, як мы (бальшавікі) хоць намінальна прызналі, што вы існуеце, як народы, дык «заходнія імпэрыялістыя» вас і да сяньня ўважаюць толькі за Расейцаў.

Яшчэ паўбяды, калі так гавораць і пішуць для мясцовага заходняга слухача ці чытача. Горш, незразумела і абураюча, што падобнае палажэньне існуе і ў тых органах заходняй прапаганды, якія накіроўваюць сваю дзейнасьць на тэрыторыю Савецкага Саюзу і іншых падкамуністычных краінаў. Мы маем на ўвазе заходнія радыяперадачы. Тут моцна ўкаранілася такое парадаксальнае зьявішча, што калі гаворыцца аб якіх-небудзь навуковых ці культурных дасягненьнях у СССР, дык называюць іх «расейскімі»; каляніялізм і імпэрыялізм у СССР і савецкім блёку называюць «савецкім», а камунізм чамусьці — «інтэрнацыянальным».

Падобнае палажэньне і ў некаторых прыватных радыястанцыях, фінансаваных заходнімі дзяржаўнымі ўстановамі ці прыватнымі арганізацыямі. На радыястанцыі «Свабода», напрыклад, дзе эмігранты ад свайго імя гавораць да слухачоў у Савецкім Саюзе, забаронена ўжываць слова «русыфікацыя», хоць усім добра ведама, што русыфікацыя ў СССР ня толькі існуе, але зьяўляецца аднэй з галоўных прыладаў для ажыцьцяўленьня заплянаванай Масквой ліквідацыі нерасейскіх народаў імпэрыі, і таму супраць яе трэба было-б змагацца ў першую чаргу і ўсімі даступнымі сродкамі.

Ведама, што колькасьць заходніх радыяперадачаў для слухачоў у краінах камуністычнага блёку далёка не дасягае колькасьці высыланых камуністымі перадачаў для краінаў некамуністычнага сьвету. Гэтую нястачу можна было-б хоць у нейкай ступені кампэнсаваць ясным, нядвузначным і правільным насьвятленьнем **усіх** праблемаў унутры Савецкага Саюзу і іншых краінаў з камуністычнымі рэжымамі. Аднак такая пастаноўка пытаньня ўсьцяж натыкаецца на перашкоды, над запраўдным паходжаньнем якіх варта было-б задумацца глыбей.

Іншы прыклад. Ад даўжэйшага часу ў Нямеччыне ў Мюнхэне існуе Інстытут Вывучэньня СССР. Ён сябе зарэкамэндаваў, як паважная навуковая ўстанова, якая зрабіла вялікі ўклад у справу вывучэньня гісторыі і палітыкі СССР і палажэньня падсавецкіх народаў, выдаючы ў некалькіх заходніх мовах і некаторых мовах народаў СССР зборнікі навуковых артыкулаў і асобныя навуковыя працы і манаграфіі. Сіламі беларускіх дасьледвальнікаў савецкага пытаньня, якія жывуць на эміграцыі, пры Інстытуце выдаваўся й «Беларускі зборнік» у беларускай і ангельскай мовах, дзе зьмяшчаліся артыкулы, прысьвечаныя палажэньню Беларусі пад савецкай уладай. У «Беларускім зборніку», як і ў падобных выданьнях Інстытуту, арганізаваных навукоўцамі-эмігрантамі іншых народаў СССР, больш за ўсё разглядалася нацыянальная палітыка Крамля ў дачыненьні да нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Пры добрай арганізацыі справы гэтыя выданьні маглі-б карыстацца асабліва шырокім попытам сярод чытачоў тых краінаў, якія, здабыўшы або здабываючы цяпер незалежнасьць, шукаюць у існуючых у сьвеце грамадзка-палітычных сыстэмах узору для насьледваньня пры арганізацыі свайго ўласнага сацыяльнага і палітычнага дзяржаўнага ладу, які найлепш забясьпечыў-бы ім палітычную незалежнасьць, свабоднае разьвіцьцё эканомікі і духовых сілаў іхных народаў. Ведама, што на пункце нацыянальнай незалежнасьці гэтыя народы асабліва чулыя.

Камуністычная прапаганда вядзе вялізарную прапагандовую кампанію за ўлучэньне гэтых маладых народаў у сваю арбіту. І вось тут для навуковых выданьняў, накшталт нацыянальных выданьняў Інстытуту, якія на канкрэтных прыкладах нерасейскіх народаў СССР выкрывалі сутнасьць бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі, адкрываліся новыя шырокія і ўдзячныя магчымасьці. Такая навуковая літаратура магла найлепш перасьцерагаць гэтыя народы ад новай каляніяльнай і імпэрыялістычнай пасткі і адначасна рабіць вялікую паслугу для ўсяго вольнага сьвету.

Тым часам, у Інстытуце Вывучэньня СССР адбыліся скарачэньні пэрсаналу ў сувязі з эканоміяй грашовых сродкаў і некаторая рэарганізацыя выдавецкай дзейнасьці з мэтай, быццам, большай рацыяналізацыі працы. І ў выніку гэтай «рацыяналізацыі» былі зьліквідаваныя чамусьці якраз некаторыя нацыянальныя выданьні, у тым ліку і «Беларускі зборнік», якія, на нашу думку, зьяўляліся выданьнямі найбольш рацыянальнымі.

Як даведваемся, цяпер бальшыня навуковых супрацоўнікаў Інстытуту ўжо ад даўжэйшага часу займаецца ўкладаньнем біяграфічнага даведніка аб савецкіх «асабістасьцях» на аснове савецкіх-жа дадзеных, які пазьней мае выйсьці ў перакладзе на ангельскую мову. Магчыма такі даведнік, выдадзены па-ангельску, будзе добрым дапаможнікам і аблегчыць працу заходнім выдавецтвам, дыпляматам і іншым, але, на нашу думку, Інстытут могу-бы і павінен быў-бы выкарыстоўваць свае сілы і сродкі больш эфэктоўна.

Зьдзіўляе таксама становішча адказных супрацоўнікаў Інстытуту з нерасейскай эміграцыі, якія ўсе гэтыя нэгатыўныя зьмены ўспрынялі поўным маўчаньнем.

Новая амэрыканская адміністрацыя, ачольваная прэзыдэнтам Кэнэды, падкрэсьліўшы сваю рашучасьць ажыцьцяўляць ідэалы свабоды і незалежнасьці ўсіх народаў сьвету, робіць высілкі ў кірунку рэарганізацыі дапамаговай дзейнасьці Задзіночаных Штатаў на ўсіх адрэзках з мэтай больш эфэктоўнага і рацыянальнага выкарыстаньня прызначаных фінансавых сродкаў. Прэзыдэнт Кэнэды ня раз асабіста выступаў супраць бюракратычнага адміністраваньня і растрачваньня сродкаў амэрыканскай дапамогі, і заклікаў амэрыканскі народ і ягоных саюзьнікаў да больш ідэалістычнага падыходу да выконваньня сваіх абавязкаў. Гэта трэба было-б узяць пад увагу тым, якія, праводзячы рэарганізацыі установаў, дасягаюць вынікаў зусім адваротных да пастаўленай мэты.

**Ю. Дубовік**

# Хрушчоў і праблема Нямеччыны

У чацьвер 15-га чэрвеня 1961-га году адбылася даволі нязвычайная падзея: кіраўнік савецкага ўраду Хрушчоў зьвярнуўся праз радыё і тэлевізію да насельніцтва Савецкага Саюзу.

Могуць папытацца: што-ж у гэтым нязвычайнага? Але гэтае пытаньне можа паставіць толькі той, хто не зьвярнуў увагі на акрэсьленьне: «да насельніцтва Савецкага Саюзу», гэта значыць — да ўсіх грамадзянаў. Прыгадаем, што Хрушчоў, як і ягоны папярэднік — Сталін зварочваліся звычайна толькі да поўных колаў насельніцтва: да калгасьнікаў, да дэлегатаў зьездаў і канфэрэнцыяў, да «перадавікоў», да дэпутатаў Вярхоўнага Савету і гэтак далей. Праўда, гэтыя іхныя выступленьні і звароты перадаваліся праз радыё або, — пасьля, — публікаваліся й былі ведамыя ўсяму насельніцтву, але ўсё гэтае не мяняе справы.

Беспасярэдня да ўсіх грамадзянаў, да ўсяго насельніцтва — Хрушчоў, за ўвесь час свайго знаходжаньня на верхавіне ўлады ніколі яшчэ не зварочваўся. А ягоны папярэднік — Сталін зварочваўся да ўсіх грамадзянаў Савецкага Саюзу, называў іх «братамі і сёстрамі» толькі ў хвіліны самай вялікай небясьпекі — у часы вайны.

Магчыма, што мамэнт, калі гэты трык ужыў і Хрушчоў — таксама трэба разглядаць як «мамэнт вялікай небясьпекі»?...

Гэта зусім магчымае...

Запраўды — напружаньне ў сьвеце набліжаецца да вельмі небясьпечнага, нават крытычнага стану, і пэрспэктываў зьменшаньня гэтага напружаньня ня відаць. У такія хвіліны, той, хто зварочваецца да ўсіх грамадзянаў, да ўсяго насельніцтва краіны з справаздачай аб паважных перамовах, хто падае факты, прынцыпы й перадумовы, якія ляжаць у васнове палітычных канцэпцыяў і прыйманых у сувязі з гэтым адказных пастановаў — павінен быць вельмі дакладным і асьцярожным у апэраваньні гэтымі фактамі й перадумовамі. Недакладнасьць можа прывесьці да стварэньня ў слухачоў выкрыўленага ўяўленьня аб рэальным палажэньні справаў і справакаваць няправільныя высновы.

А гэта — натуральна — ня зробіць пазытыўнага ўплыву на ход міжнародных высілкаў у справе паслабленьня створанага ў сьвеце небясьпечнага напружаньня — і такім чынам зробіць дрэнную паслугу справе міру.

Між тым, у выступленьні Хрушчова з справаздачай аб перамовах у Вене — меўся цэлы шэраг паважных і небясьпечных недакладнасьцяў і выкрыўленьняў. На некаторыя зь іх мы хочам зьвярнуць увагу нашых чытачоў. Спынімся толькі на тэй частцы выступленьня Хрушчова, якая тычылася пытаньня аб падпісаньні ўмовы зь Нямеччынай і справы Бэрліну. Гэтыя пытаньні ў сучасны мамэнт зьяўляюцца самымі складанымі, цяжкімі і напэўна небясьпечнымі пунктамі разыходжаньняў.

Хрушчоў выходзіць з зусім правільнай перадумовы, гаворачы: «Мірная ўмова зь Нямеччынай неабходная». Запраўды, гэтага не адмаўляе ніхто і, у першую чаргу, самі Немцы. Пасьля, Хрушчоў ставіць рэтарычнае пытаньне: «чаму-ж яе не падпісаць?» Хоць звычайна, такія пытаньні адказу не патрабуюць, — у даным выпадку адказ неабходны. Такой умовы падпісаць нельга, бо яе няма з кім падпісваць... Няма юрыдычнага суб'екту, няма Нямеччыны. Ёсьць два ненатуральныя дзяржаўныя творы, насельніцтва якіх імкнецца — настойліва і няспынна — да аб'яднаньня.

Чаму гэтае аб'яднаньне да гэтага часу не дасягнутае? Таму, што яно можа

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Дэмакратыя

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Ці можна апраўдаць чалавека, які, ня могучы прафарсаваць сваіх пагляда ў, бяжыць скардзіцца да чужога?

Ці можна апраўдаць чалавека, які, зноў-жа займаючы высокае становішча ды пачуўшыся на сіле, адчуўшы сябе «царом, Богам і воінскім начальнікам», усю сваю дзейнасьць праводзіць у разрэз з дзейнасьцяй нашых нацыянальных органаў на эміграцыі, навет наўсуперак ім, — ня гледзячы на тое, што гэты чалавек сам зьяўляецца сябрам гэтых органаў, ня гледзячы н атое, што гэтыя органы дзеюць на падставе пастановы бальшыні.

Ці можна, урэшце, апраўдаць чалавека, адказнага за адну з найважнейшых галінаў нашай палітычнай дзейнасьці, калі ён выкарыстоўвае сваю пазыцыю, як прыладу ціску на грамадзтва ці найвышэйшыя органы дзеля задаволеньня сваіх уласных амбіцыяў? Пры гэтым ня важна, якімі меркаваньнямі ён кіруецца — прэстыжнымі ці матарыяльнымі. Факт застаецца фактам, што нашаму вызвольнаму руху гэтым робіцца шкода. Вораг гэтага толькі і чакае.

Наша палітычная эміграцыя, бяручы агулам, — маналітная. Маналітная ў тым значэньні, што мы не разыходзімся ў разуменьні нашых мэтаў і ідэалаў. У гэтай плашчыні намаганьні бальшавікоў разьбіць нас дарэмныя. З другога боку, розьніца пакаленьняў, выхаваньня, жыцьцёвы шлях маюць не малую вагу. Ёсьць у нас людзі яшчэ з «нашаніўскімі» паглядамі, для якіх Беларусь — гэта «зямелька», «старонка» і г. д. Ёсьць у нас і загартаваныя дзеячы, якіх аднак умовы дзейнасьці зрабілі «князькамі» — якія ня прывыклі лічыцца з думкай грамадзкасьці. Ёсьць маладыя, якім давялося фармаваць свой сьветапагляд ужо тут на Захадзе, і якія не заўсёды ўсьведамляюць сабе ўсе цяжкасьці нашага вызвольнага **рэвалюцыйнага** змаганьня. Мы падкрэсьлілі «рэвалюцыйнага» — бо гэтым у вялікай меры абумоўліваецца дзейнасьць нашай эміграцыі. Існуюць неабходныя галіны дзейнасьці, аб якіх не заўсёды павінны быць адразу паінфармаваны ўсе. У такім выпадку мы павінны верыць у людзей, якім мы даверылі кіраўніцтва. Аднак усё гэта ня выключае аднаго: мы павінны аставацца дэмакратамі — рэвалюцыйнымі дэмакратамі. Бо ў гэтым якраз наша сіла ў змаганьні з акупантам.

**Ул. Неманові ч**

Праф. А. Барычэўскі

# „Матчын Дар“ Алеся Гаруна

Зьбіраньне твораў, устанаўленьне тэксту іх, датаваньне іх, высьвятленьне фактаў біяграфіі паэты, характарыстыка яго як мастака й чалавека, сацыяльны сэнс ягонае творчасьці — вось паасобныя мамэнты дасьледнае працы пры рыхтаваньні выданьня твораў яго. Толькі па выкананьні іх магчыма даць угрунтаваны на ўсебаковым і поўным вывучэньні закончаны вобраз пісьменьніка.

У гэтай канчальнай задачы свайго вывучэньня дасьледнік часта мае папярэдніка ў васобе чуйнага крытыка, які абапіраецца на сваю інтуіцыю. Сьцьверджаньні крытыка, зразумела, не бясспрэчныя й не абавязкавыя, але яны кідаюць на пісьменьніка нейкае папярэдняе, хоць-бы й неадпаведнае, сьвятло. Бяз гэтага сьвятла нам давялося-б працаваць у цемры: для таго, каб удатна навукова дасьледваць спадчыну паэты, трэба ўжо мець нейкае сваё ўспрыйманьне ягонае творчасьці й таго, што ў ягонай спадчыне можа быць важным і каштоўным. Зразумела, гэтае папярэдняе інтуіцыйнае асьвятленьне ў выніку навуковых досьледаў можа падлягаць тым ці іншым зьменам.

У той час, калі рыхтавалася выданьне твораў Максіма Багдановіча, беларуская крытыка казала ўжо аб гэтым пісьменьніку свае першыя словы. Іначай стаіць справа з Алесем Гаруном. «У спадчыну яго творчасьці, — пісаў Адам Бабарэка, — не заглядала яшчэ ніводнае вока крытыкі, каб вынесьці на сьвет яе пэрлы».[1] Гэтая акалічнасьць пабудзіла мяне ўзяцца ў дачыненьні да памерлага пісьменьніка за наступную задачу: на гэтых балонах я стараюся даць спробу папярэдняга апісаньня кнігі, якой, з прычыны бяшчаснай сьмерці паэты, давялося стацца ягонай галоўнай літаратурнай спадчынай, — «Матчынага Дару». У гэтай працы я не разглядаю іншых ягоных твораў, адкладаю ўбок пакуль што мала высьветленую біяграфію яго, я толькі бяру ягоную кнігу й чытаю яе.

У ваднэй сваёй працы («Паэтыка літаратурных жанраў», б. 10) я адзначыў, што лірык із хвілінных дароў свайго натхненьня, зьвязваючы іх у кнігу, часта стварае будынак, у якім тое, што здавалася-б пабежным і выпадкавым, можа заняць пэўнае месца, быць падпарадкаваным больш высокаму адзінству і, як нейкая часткавасьць, стаць у ведамае дачыненьне як да цэлага, так і да іншых часткавасьцяў, атрымваючы, такім парадкам, новую значэннасьць.

Першую спробу прыкласьці гэтае гледзішча да аналізу кнігі вершаў зрабіў у нас Я. Плашчынскі ў артыкуле «Кніга лірыкі, як мастацкае цэлае, 'Вянок' М. Багдановіча»,[2] — працы, якая выйшла з майго сэмінарыуму паэтыкі ў унівэрсытэце.

Інакш стаіць справа ў нямецкіх літаратураведаў, якія зыбралі вельмі цікавы матар'ял аб тым, як нямецкія паэты складалі свае кнігі вершаў. Ужо ў часе пісаньня гэтага артыкулу я пазнаёміўся зь вельмі грунтоўнай працай У. Бэлярта, прысьвячанай зборнікам вершаў Гэнрыка Гэйнэ.[3] Прынцыповыя палажэньні Бэлярта наступныя. Кажны лірычны верш — нешта закончанае. Ягонае йснаваньне павінна быць апраўданае ім самым. Але ён можа быць уведзены ў больш вялікае цэлае — цыкль ці кнігу. Дзякуючы гэтаму, адны бакі вершу могуць быць асьветленыя, другія — можа быць, ня меней каштоўныя — застацца ў засені. Не заўсёды групаваньне вершаў зусім паддаецца чыста-лягічнаму аналізу. Так, у групаваньні вершаў Гэтэ было заўважана нешта цякучае, нешта выпадкавае ў малым, аднак-жа пры заканамернасьці цэлага. Гэтэ йдзе ад юнацкіх радасьцяў і пакутаў праз жыцьцёвыя буры да прыгожага й шчасьлівага валоданьня. Таксама Шыльлер у сваім разьмяшчэньні вершаў карыстаецца не хранальгічным парадкам, а іхнай нутраной зьвязанасьцяй. Ніткі, якія зьвязваюць адзін верш з другім, могуць быць вельмі тонкімі, і не заўсёды іх лёгка знайсьці. Тое-ж датычыць і да аўтара: паэта наагул у сваёй творчасьці не заўсёды зусім сабе ўсьведамляе тыя мэты, якія ён сабе ставіць. Гэта датычыць і да складаньня вершаў у кнігу: так, у Гэтэ не заўсёды можна было-б правесьці мяжу паміж сьведамымі ймкненьнямі паэты й выпадкавым дасягненьнем. Гэйнэ любіць зьвязваць вершы ў цыкль, які становіць невялікую лірычную навэлю. Такім цыклям ён часта дае нейкую раму ў форме пралёгу й эпілёгу. Мы знаходзім у яго як ляйтматыўныя звароты думкі ў цыклі ці кнізе, так і беспасярэдняе прыляганьне аднаго вершу да другога, папярэдняга. Тыя ці іншыя прынцыпы пабудовы зборніка вершаў можна знайсьці й у іншых нямецкіх паэтаў. Толькі адзін зь іх прынцыпова адкідаў задачу ўпарадкаваньня вершаў у кнізе: гэта — Ліліенкрон. Ён хацеў, каб кажны верш рабіў уражаньне сам па сабе й толькі сам па сабе. Ён ставіў поплеч сама разнастайныя вершы, ён любіў раптам і нечакана зьмяняць свае настроі, не падпарадкуючы іх ніякаму вышэйшаму прынцыпу.

Вярнемся да кніжкі Алеся Гаруна: яна — не мэханічны збор вершаў, але арганічнае цэлае. «Матчын Дар» складаецца з уступнога вершу й з трох разьдзелаў. Уступны верш «Людзям» у лірычнай форме разгортае перад намі «я» паэты й ягоны лёс. Зусім дарэчы назваць гэты верш, адзначаючы ягоную функцыю ў кнізе, увэртурай, бо падобна да таго, як увэртура перадпасылае ў неразгорнутым яшчэ выглядзе тыя мэлёдыі, разьвіцьцё якіх — задача далейшага, так і ў гэтым уступным вершы дадзеныя асноўныя тэмы кнігі. Матывы гэтага вершу я зьвёў-бы да наступных: 1) матыў каханьня да жыцьця, 2) роля творчасьці ў жыцьці паэты, 3) дачыненьне паэты да свайго народу, народу-песьняра, 4) вобраз дзяўчыны, якая прыходзіць у часіну натхненьня й зьяўляецца зноў разам з надзеяй паэты на захаваньне й распаўсюджаньне ягоных песьняў.

Першы матыў — каханьня да жыцьця — матыў, які паўтараецца ў сярэдзіне кнігі —

Люблю зямлю, вялікі жыцьця ток,
Як неба зорачкі, каханьнем моцным сына —

гэта крыніца, зь якое выплываюць вершы, якія фармулююць знойдзеную паэтам жыцьцёвую мудрасьць («Ноктурно» й «Ідуць гады»), дыдактычныя вершы, у якіх ён раіць Белару-

# Зварот да Беларускага народу

Дарагія Браты й Сёстры на роднай беларускай зямлі пад Маскоўскай акупацыяй!

Самыя гарачыя прывітаньні, пакутны Народзе, шлем Табе, мы Твае Браты й Сёстры, зьехаўшыся з розных вольных краінаў на Культурна-Рэлігійны Тыдзень у Чыкаго (ад 1 да 5 ліпеня) дзеля абмеркаваньня сучасных беларускіх заданьняў на эміграцыі і дзеля змаганьня за вызваленьне Беларусі.

Дарагія Браты і Сёстры!

Мы ведаем добра Вашую цяжкую няволю пад маскоўска-бальшавіцкім ярмом. Мы вывучаем тут у вольных краінах жудасны наступ русыфікацыі ў Вашых школах, у прэсе, радыё, у Вашым буднім жыцьці, у Вашай прыгоннай працы. Мы ведаем, што сучасныя маскоўскія сатрапы з Хрушчовым на чале імкнуцца зьнішчыць Беларускі Народ, як самабытную нацыю, ды зрабіць яго непадзельнай часткай Маскоўшчыны. Мы ведаем, што дзеля гэтай самай мэты сотнямі тысячаў гоніцца беларуская моладзь на цаліннную зямлю ў Казахстане, на пасяленьне ў Сібір ці іншыя далёкія куткі Савецкага Саюзу, каб адарваная ад бацькоў, ад роднай Краіны, загнаная ў непасільны прыгон пад маскоўскімі цівунамі затраціла сваё нацыянальнае й духовае аблічча ды сталася маскоўскімі янычарамі. Мы ведаем, што Вы церпіце зьдзек ад калгасных і фабрычных прыганятых, што Вам адабралі ці адбіраюць апошні кусочак зямлі, апошнюю жывёліну й апошнія надзеі на самастойнае жыцьцё. Вы мусіце, як нявольнікі цяжка працаваць за мізэрны кавалак хлеба ды яшчэ хваліць сваіх прыгнятальнікаў. Вам не знайсьці у Вашых прыганятых ані ва ўсёй праступнай бальшавіцкай сыстэме няволі й зьдзеку, ані спуску, ані ласкі, ані справядлівасьці, ані адпачынку. Мы ведаем, што бязбожная Масква і ейныя прыслужнікі таксама прасьледуюць Вас за Вашу веру ў Бога, за Вашую адданасьць сьвятой Царкве. Яны намагаюцца затруціць Вас ядам бязбожжа, няверы й подлага служальства маскоўскаму бажку.

Дарагія Браты-Пакутнікі!

Мы тут у вольных краінах сьвету ўсё робім магчымае, каб Вашыя мукі, цярпеньні й Вашае жаданьне быць вольнымі на сваёй роднай зямлі, каб Ваша барацьба за вызваленьне сталася ведамай на ўвесь сьвет, і каб вольныя краіны, што цяпер лучацца супраць бальшавіцкай небясьпекі, прысьпешылі Вашае вызваленьне.

Будзьце сільнымі духам і вераю. Ужо палі усе доўгатрывалыя калёніі на чорным кантынэньце ў Афрыцы, падаюць прыгонныя сыстэмы ў Азіі. Чарга цяпер на найбольшую мучыцельку народаў, на прыгонную Маскоўскую імпэрыю!

Масква чуе свой канец, таму сіліцца на прапагандовую ракетную шуміху, каб запалохаць вольны сьвет, ды Вас, паняволеных, што няма ратунку на вызваленьне. Але вольны сьвет ведае, што ракетны пугач ня ў сілах ўратаваць далейшага існаваньня сыстэмы прыгону зьдзеку, беднаты, і незадаваленьня. Вольны сьвет ня толькі ўзброены ў ракеты, але ў свабоду й матарыяльны дабрабыт.

Не карыцеся Маскве й ейным прыслужнікам! Не адступайце ад веры Вашых бацькоў, ад роднай мовы, ад роднай зямлі, ад імкненьняў да свабоды й вызваленьня!

Час справядлівага суду над злачынцамі ужо блізкі!

Слава Табе, Беларускі Народзе, у барацьбе за свабоду!

Чыкаго, 1 ліпеня 1961 году.

**Выканаўчы Камітэт Культурна-Рэлігійнага Тыдня у Чыкаго, З.Ш.А.**

# У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

Навуковая зборка 3 чырвеня была прысьвечаная пытаньню беларусаведы ў англамоўных энцыкляпэдыях. Даклад на гэтую тэму прачытаў д-р Вітаўт Кіпель, які ўжо колькі гадоў працуе ўваднэй з найбольшых амэрыканскіх бібліятэкаў — у публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку, аддаючы ладную частку свайго часу пытаньням беларускае бібліяграфіі і гісторыі беларускае кнігі. Д-р Кіпель апошнім часам займаўся вывучэньнем англамоўных энцыкляпэдыяў ды параўнаньнем у іх усяго, што датычыцца Беларусі й беларусаведы. Вынікамі свае працы ён і падзяліўся з удзельнікамі паседжаньня сяброў БІНіМ-у.

Англамоўных энцыкляпэдыяў — у Амэрыцы, Канадзе, Ангельшчыне, Аўстраліі — налічваецца дзесяткі. Энцыкляпэдыя на Захадзе — адна з галоўных крыніцаў веды, як для шырокае публікі, гэтак і для спэцыялістых. Асабліва вялікую ролю маюць энцыкляпэдыі для фармаваньня веды й сьветагляду моладзі. У Амэрыцы, прыкладам, 90% вучняў карыстаюцца энцыкляпэдыямі ў вывучаньні геаграфіі й гісторыі народаў сьвету. Гэта паказвае, якое вялікае пазнавальнае значаньне мае энцыкляпэдыя, ды як важна, у нашым выпадку, каб у энцыкляпэдыях былі пададзеныя праўдзівыя інфармацыі пра Беларусь. Якжа выглядае пытаньне беларусаведы ў энцыкляпэдыях англамоўнага сьвету?

Паводля д-ра Кіпеля, у англамоўных энцыкляпэдыях даволі шмат агульнае інфармацыі пра Беларусь, асабліва пра фізычную геаграфію й эканоміку. Тым ня менш, часта гэтая інфармацыя расьцярушаная — у тым сэньсе, што паказьнік (індэкс) пад словам «Беларусь» не адсылае да ўсіх мясьцінаў, дзе пра Беларусь і Беларусаў гаворыцца. Гэта вельмі вялікая загана, бо сярэдні чытач сваё азнаямленьне з новым для яго пытаньнем пачынае ад паказьніка, і на гэтым канчае. Выходзіць так, што ў энцыкляпэдыі весткі ёсьць, а да чытача яны не даходзяць. Хібы гэткія ёсьць нат у самых паважных энцыкляпэдыях.

Куды горш справа выглядае зь беларускай гісторыяй і культурай. Тут загана тлумачыцца тым фактам, што энцыкляпэдычныя выдавецтвы чэрпаюць свой матарыял з тэндэнцыйных выданьняў або замаўляюць яго ў людзей, што няпрыхільна настаўленыя да Беларусі дзеля ведамых нам суседзка-палітычных меркаваньняў. У такіх выпадках багацьце беларускае гістарычнае спадчыны або замоўчваецца, або запісваецца на расейскі, польскі, а часамі летувіскі (у сувязі з назовам нашае дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага) рахунак.

Апрача ўсяго вышэй адцемленага, англамоўныя энцыкляпэдыі прысьвячаюць Беларусі непрапарцыянальна мала увагі наагул. Др. Кіпель зрабіў параўнаньне таго, што напісана пра Беларусь і Бэльгію ў ваднэй з найпаважнейшых амэрыканскіх энцыкляпэдыяў «Брытаніка» (між іншага, шмат хто памылкова думае, што «Брытаніка» — брытанская энцыкляпэдыя). Параўнаньне навочна паказала, наколькі мала выдаўцы «Брытанікі» прысьвячаюць увагі Беларусі, ня кажучы ўжо пра недакладнасьць інфармацыі ды пра ейную нескаардынаванасьць у індэксе.

**Беларускія энцыкляпэдыі**

Др. Кіпель упяршыню зыбраў цікавыя матар'ялы да гісторыі **беларускіх** энцыкляпэдыяў. Гісторыя гэтая багатая. Беларускія энцыкляпэдыі зьявіліся ўжо ў 16-ым стагодзьдзі. Імі былі рукапісныя энцыкляпэдыі «Тайна тайных, Арыстотэлева врата», пераклад у беларускую мову з арабскае, і «Шэстакрыл» (6 крылаў), пераклад у беларускую мову з жыдоўскае. Вялікім крокам наперад у разьвіцьці энцыкляпэдыяў усходніх славянаў быў беларускі слоўнік Лаўрэна Зізанія, выдадзены ў 1596 г. у Вільні. Гэта быў «Лексіс, сіпрэч реченія вкратце собраны і із словенского языка на простой русскій діалект істолкован». Укладальнік увёў у слоўнік тлумачэньні словаў, выкарыстоўваючы іншыя выданьні ды падаючы цытаты.

«Лексіс» Зізанія стаўся крыніцай для іншых слоўнікаў і энцыкляпэдыяў. Гэтак, прыкладам, Памва Берында, уклаўшы новы беларускі слоўнік, зазначыў у прадмове (2 выданьні: 1627 г. і 1653 г.), што базуецца на слоўніку Зізанія, уводзіць усе ягоныя словы й ладна пашырае іх.

У другой палавіне 17-га стагодзьдзя зьявіліся былі наступныя беларускія энцыкляпэдыі: «Цуда Багародзіцы», «Неба новае» й «Зьвязда прасьвятая». Апошняя зь іх падобная да лацінскае энцыкляпэдыі Француза Вінцэнта Бовэ «Спэкулюм маюс», толькі гэта не пераклад, а арыгінальны беларускі твор. Для параўнаньня варта прыгадаць, што першая расейская энцыкляпэдыя зьявілася на паўстагодзьдзя пазьней за беларускую, у 1720 г.

Апрача вышэй спомненых, было выдадзена яшчэ колькі драбнейшых беларускіх энцыкляпэдыяў. Палянізацыя й падбой Беларусі Расеяй спынілі разьвіцьцё беларускае энцыкляпэдыі. Праца гэтая аднавілася адно ў 30-х гадох нашага стагодзьдзя, аднак была перапыненая расейскімі акупантамі, а першы том энцыкляпэдыі, надрукаваны ўжо, быў спалены й картатэка сканфіскаваная. Ад таго часу й да сяньня ў падсавецкай Беларусі нічога ня робіцца ў кірунку выданьня беларускае энцыкляпэдыі. Праўда, пару гадоў таму былі загаварылі пра дзесяцітомнае выданьне беларускае савецкае энцыкляпэдыі, але на гэтым пакуль што справа спынілася. Савецкі акупацыйны рэжым на Беларусі, які выхваляецца, што беларускі народ дачакаўся нябывалага росквіту свае культуры, усё яшчэ ня можа здабыцца на асноўнае, што запраўды незалежны й свабодны народ павінен мець — сваю нацыянальную энцыкляпэдыю. Мала таго, дакладчык зьвярнуў увагу на характэрны факт, што Акадэмія навук савецкае Беларусі ня мае ніякага ўплыву й ня робіць ніякага высілку ў кірунку інфармаваньня заходніх энцыкляпэдычных выдавецтваў пра Беларусь і беларускую гісторыю, ня кажучы ўжо пра тое, што інфармацыя гэтая будзе заўсёды аднабокая, працэджаная праз сіта партыйна-чужацкіх інтарэсаў. Дзеля гэтага, зазначыў прэлегент, у галіне інфармаваньня заходніх энцыкляпэдычных выдавецтваў застаецца яшчэ вялікая работа, што абавязкава мусіць быць прапробленая.

За часткавае выкананьне гэтага заданьня бярэцца цяпер БІНіМ, сярод сяброў якога пабольшваецца лік маладых сілаў, што выходзяць з унівэрсытэтаў розных краёў Захаду ды паступова замацоўваюцца ў акадэмічным сьвеце. Пры БІНіМ-е заснавалася цяпер энцыкляпэдычная сэкцыя, заданьнем якое будзе перш-наперш падаваць інфармацыі пра Беларусь у розныя энцыкляпэдычныя выданьні Захаду, а таксама рыхтаваць матарыялы для будучага выданьня вольнае беларускае энцыкляпэдыі.

**Я. Запруднік**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**В. П. Сп. Рэдактар!**

Ветліва прашу Вас зьмясьціць мой ліст у газэце «Бацькаўшчына».

Мне вельмі й вельмі прыкра, што апрача Маскалёў зьдзеквацца пачалі й нашыя, ды друкаваць у «Бацькаўшчыне» артыкулы аб Кастусю Каліноўскім, называючы яго «беларускім нацыяналістым». Даруйце мне, але Каліноўскі ніколі «беларускім» патрыётам ня быў і ня мог быць. Папершае, ён паходзіў з былой Горадзенскай губ., з сучаснай Беласточчыны, якая ніколі ў склад Беларусі не ўваходзіла. Падругое, калі-б Масква ўлучыла Беласточчыну ў Беларусь, дык Каліноўскі-ж быў змагаром з насільлем, а таму пад ніякім паглядам ня мог сябе ўважаць Беларусам, бо гэта было супраць ягонае палітычнае канцэпцыі, было-б нелягічным, змагаючыся за свабоду, але з рабскім кляймом на чале.

Тое, што Масква накінула нам гэты тэрмін і цяпер стараецца канчаткова яго замацаваць і выкарыстоўвае асобу К. Каліноўскага, дык гэта справа Масквы, бо калі-б яна гэтага не рабіла, дык перастала-б быць Масквой. Але, калі, прыкладам, нейкі Сп. П. У. піша аб Каліноўскім, а яшчэ калі аналізуе працы з мэтаю адшуканьня праўды, дык хай-жа ён прытрымоўваецца праўды, а не адурманівае чытачоў.

Каліноўскі быў Ліцьвіном, а не Беларусам. Тэрмін «беларусь, беларускі» адносіўся вылучна да губэрняў Віцебскае й Магілеўскае. Губэрні Віленская, Менская й Горадзенская называліся Літоўскія. Нават сам Мураўёў-Вешацель карыстаецца гэтым тэрмінам у сваіх «Успамінах». Ён піша: «надо заметіть, что Ковенскі ген-губернатор до января 1863 г. заверял, что в Самогітіі всё спокойно». Далей Мураўёў, разглядаючы вайсковыя сілы ў мамэнт выбуху паўстаньня, кажа: «В Літве находілісь следуюшчіе сілы: в Віленской губ. 1-я пехотная й 1-я кавалерійская дівізіі; в Гродненской 2-ая пехотная дів. в Мінской 3-ая пехотная дівізія», але паколькі ў Пецярбурзе «боялісь уже не за Літву, а за Петербург і за себя, оні страшілісь всеобшчего развітія демократіческіх начал, то во второй половіне апреля 1863 г. между главнымі правітельственнымі деятелямі была обшчая паніка», а таму былі кінутыя дадатковыя сілы «паслана 1-ая гвардейская пехотная дівізія і уланскій полк». Як-жа Каліноўскі мог сябе называць Беларусам, калі нават у Пецярбурзе Горадзенскую губ. лічылі літоўскай губэрняй, а сучасную Літву разглядалі ў тым-жа Пецярбурзе як «Самогітію». Тэрмін «Літва» быў так замацаваны, што тыя-ж самыя маскоўскія галаварэзы, якія вырывалі з сэрцаў нашага народу ўсякі ўспамін аб мінуўшчыне, а насаджвалі іншы тэрмін, — нават яны паслугоўваліся тэрмінам «Літва», «літоўскі», «літвін» ігд. А што гэта так, дазволю яшчэ адзін прыклад падаць.

У 1864г. праездам з Варшавы ў Пецярбург заехаў у Вільню кн. В. А. Чаркаскі й вырашыў злажыць візыту Мураўёву, ды пасьля таго гэтак пісаў у сваіх запісках:

«Діктатор Літвы, подобно большім і малым деспотам, добродушно расказывал о своей деятельносьті сложів рукі на своем об'ёмістом жівоте. Говоріл тіхім, мягкім голосом, с самой добродушной улыбкой і с відным душевным самоуслажденіем:

«Гр. Бергу трудно в Царстве Польском, труднее чем мне здесь, в Літве. У него сплошное населеніе і одна религія, одін народ. У меня же мятежнікі, — элемент наносный. Мне гораздо легче вырываць і сажаць в тюрмы. Очень часто я іх сажаю без малейшей віны, даже подозренія нет; в таком случае пусть посідіт под замком, быть может что нібудь і отыщется. І что-ж вы думаете? Я всегда так счастлів, потому что всегда что нібудь за сідельцем-то моім і отысківалось. Ну, тогда подавай его сюда, і я всегда іх вешаю».

Дзікая расправа Мураўёва выклікала не ў ваднаго Расейца абурэньне, а можа сорам перад Эўропай, куды выяжджалі расейскія арыстакраты на «курорты». Вязьняў, за якімі відаць нічога, навет Мураўёў, знайсьці ня мог, высылалі ў такім выпадку на катаргу. У Пецярбурзе пачалі пераглядаць іх справы. Зразумела, што разглядаліся тых, хто меў «плечы» ў Пецярбурзе. Сялянскія сыны й сыны дробнае шляхты не маглі знайсьці «покровітелей», але й гэта абурыла Мураўёва. Таму, што ён меў неабмежаваныя паўнамоцтвы, дык ён, каб абмінуць Пецярбург, пачаў слаць праз Пскоў-Стару Русу-Яраслаўль . . .

Колькі было выслана, адзін Бог ведае, але што мэтай было вылюдніць нашу Бацькаўшчыну, дык гэта факт. Аб гэтым сьветчыць ліст Мураўёва да Міністра Унутраных Справаў Валуева, з дня 3-га сьнежня 1863 г.:

«В настоящчее время, із чісла назначенных для жітельства неблагонадёжных ліц губ-ні:Архангельская, Новгородская, Олонецкая, Пермская і Тамбовская уже наполнены окончательно уроженцамі здешнего края; губ-ні: Казанская, Костромская і Оренбурская, за сделанымі высылкамі, будут также наполнены і остаются ешчё свободныя места только в Воронежской, Ніжегородской, Пензенской, Саратовской, Ліфляндской і Эстляндской губ-ях; но в первых трёх губерніях імеется также не много свободных мест, а последніе трі'я не нахожу удобнымі пополнять вредным населеніем здешнего края, так как із ніх в Саратовской губ-ніі прожівает много католіков і сушчествует католіческая епархія, а Ліфляндская і Эстляндская гб-ні, по смежності с западнымі губ-мі, далі бы возможность выселенцам сносіться с жітелямі здешнего края, ко вреду правітельства» . . . Я думаю, что было бы гораздо полезнее, еслі бы высылаемые на жітельство, вместо размешченія по многім мелкім городам внутрі імперіі, былі сосредоточены в двух ілі в трёх найболее отдалённых пунктах імперіі, для чего моглі бы с удовольствіем служіть: Печерскій край Вологодской губ., Туруханскій край Тобольской губ. і даже бы можно высылать в Якутскую область. . . . Імея в віду, что важнейшіе революціонные деятелі здешнего края сосланы, по суду, на каторжные работы на разныя срокі, с лішеніем всех прав состоянія, я просіл бы обратіть на ніх вніманіе ген-губернатора Восточной Сібірі с тем, чтобы, по его устмотренію, былі пріняты меры к самому строгому і бдітельному надзору за німі. По отбытіі этімі преступнікамі сроков в каторжных работах . . . поселіть в северной часті Якутской обл., пріняв правілом — не возврашчать, как этіх преступніков, так і другіх, сосланых на жітіе в Сібірскія ілі отдаленныя губерні.

Падаю я гэты ліст без перакладу, бо злачынствам было-б перакладаць яго: гэта акт сьмерці для нашага народу, выдадзены Масквой. І ён актуальны.

Ці не сьпявае сп. П. У. пад маскоўскую дудку, цьвердзячы беспадстаўна, што Кастусь Каліноўскі змагаўся за гэтае, каб Бацькаўшчына наша звалася «Беларусяй»?

Такога зьдзеку над гэроям нават Мураўёў не прыдумаў, бо для яго Каліноўскі быў Ліцьвіном.

**М. Белямук**

# Да пытаньня „Змовы князёў" 1841 году

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

Як бачым, савецкія гісторыкі выбралі лінію найменшага супраціву з узгляду на крыніцы, а таксама найвыгаднейшую з узгляду гістарычнай канцэпцыі пра беларускі народ як «неад'емнай часткі» Расеі. Яны навет адмовіліся прасачыць тыя падзеі ў ВКЛ, якія ў працэсе свае даўгое фэрмэнтацыі прывялі да гэтай «змовы князёў» 1481 году, адмовіліся прааналізаваць больш пэўныя гістарычныя крыніцы, прытым актавыя матарыялы, што кідаюць іншае сьвятло на падзеі 1481 году.

Мэтай гэтага артыкулу й ёсьць спроба дапоўніць прыгаданыя хібы савецкіх гісторыкаў ды даць больш аб'ектыўнае насьвятленьне змовы супраць польскага караля й вялікага князя літоўскага Казіміра 1481 году.

---

1) **Очерки истории СССР. Период феодализма, конец XV в. — начало XVII в.** АН СССР. Масква, 1955, б. 148.

2) **История Белорусской ССР.** АН БССР. Менск, т. I, 1954. б. 85.

3) Пичета, **Образование белорусского народа,** «Вопросы истории», № 5-6, 1946, б. 22.

**(Працяг будзе)**

**П. Урбан**



# Да ўвагі нашых супрацоўнікаў

З гэтай просьбай мы ўжо няраз зварочваліся да Вас, і паўтараем яе: не шкадуйце лішняга ліста паперы! Яна, дзякуй Богу, на Захадзе не зьяўляецца праблемай. Але для нас праблемай зьяўляюцца артыкулы й наагул матарыялы, надрукаваныя аўтарам, пішучай машынкай, **густа** й на **абодвух бакох** ліста паперы. Хуткае рэдагаваньне такіх матарыялаў бадай немагчымае, і іх да таго трэба зноў перадрукоўваць на машынцы. Гэтым траціцца час! Да таго-ж Вы ведаеце, што ніхто зь сяброў Рэдакцыі нашае газэты не зарабляе працай для яе на сваё утрыманьне. Рэдагуючы й перадрукоўваючы такія матарыялы, сябры Рэдакцыі трацяць час, якога ў іх не зашмат ды які яны маглі-б выкарыстаць куды больш рацыянальна.

Гэта тычыцца таксама нашых супрацоўнікаў, якія, ня маючы пішучай машынкі, прысылаюць нам матарыялы ў рукапісе. Просім Вас: пішэце **праз радок** і **на адным баку** ліста!

**Рэдакцыя**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**


## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski**, 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**